ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178. Jamaica. N. Y. 11431

Год. XXXI Но. 300 — Нью Ёрк — травень — 1982 — May — New York — Vol. XXXI № 300

# НАСТАЎНІКІ

**(ДА 75-ГОДЗЬДЗЯ БЕЛАРУСКАГА НАСТАЎНІЦКАГА САЮЗУ)**

Калі-б на Беларусі сьвяты ўстанаўляліся з улікам нацыянальных традыцыяў ,а не маскоўскіх інтарэсаў, дык Дзень Настаўніка адзначаўся-б не ў кастрычніку, як гэта робіцца цяпер, а, бадай, у травені — на ўшанаваньне вялікае падзеі ў гісторыі беларускае асьветы — заснаваньня Беларускага Настаўніцкага Саюзу (БНС). Але ў савецкай Беларусі памяць пра БНС ня тое, каб не ўшаноўвалася — яна заціраецца, прамоўчваецца. Гэтак, прыкладам, пра першую настаўніцкую арганізацыю — ні слова ані ў 12-томавай унівэрсальнай Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, ані ў кароткай 5-томавай энцыкляпэдыі адмыслова прысьвечанай БССР. Праўда, сам факт стварэньня БНС адзначаны ў 2-ім томе пяцітомавае „Гісторыі Беларускай ССР" (б. 423): „У маі 1907 г. на зьезьдзе народных настаўнікаў у Вільні быў створаны Беларускі настаўніцкі саюз, які паставіў задачу весьці барацьбу за перабудову народнай асьветы на дэмакратычных асновах, для карысьці народу дабівацца ўвядзеньня ў школу роднай мовы".

Гісторыя БНС не дасьледаваная, хоць, як выглядае, арганізацыя гэтая адразу-ж пачала расьці. У газэце „Наша Ніва" (№ 22 за 1907 г.), дзе было зьмешчанае паведамленьне пра стварэньне Саюзу неўзабаве зьявілася й гэткая вестка („НН" № 27, 17/30. IX. 1907):

„У Вялейскім павеце ў прошлым тыдні быў зьезд групы народных вучыцялёў з гэтага павету. Найбольш гаварылі аб навучаньні беларускіх дзяцей у народных школах. Усе прызналі, што школы прынясуць дзецям куды больш карысьці, калі вучыць іх будуць пачынаць пабеларуску, як яны прывыклі гаварыць з бацькамі ў хаце... Усе сабраўшыяся на зьезд пастанавілі прылучыцца да ‚Беларускага Вучыцельскага Саюзу' ".

Ад таго часу й па сёньняшні дзень беларускае настаўніцтва выконвае ў гісторыі нашага народу неперацэненую ролю. Беларускі Настаўнік стаўся, фактычна, галоўным перахоўвальнікам духова-культурных вартасьцяў, пераказвальнікам іх нашчадкам, галоўным вязьмом паміж пакаленьнямі, абаронцам нацыянальнае душы ад пасяганьняў на яе дэнацыяналізатараў рознае масьці.

Роля настаўніцтва ў станаўленьні й росьце руху не апісаная йшчэ, не асэнсаваная, але ніхто ня будзе запярэчваць, што яна выдатная, можна сказаць цэнтральная, паколькі самая існасьць Беларушчыны ўгрунтаваная на культурнай глебе.

На Беларусі сяньня ў сувязі з этнацыднай савецкай нацыянальнай палітыкай, ськіваванай на паступовае заціраньне культурнае апрычонасьці нашага народу, заціраецца й гістарычная роля Беларускага Настаўніка ў перахоўваньні нацыянальна-культурных вартасьцяў ды ў зьнітаваньні пакаленьняў. Гісторыя асьветы на Беларусі ў ХХ-ым ст. пішацца адно нагэтулькі, наколькі яна мае дачыненьне да бальшавіцкае партыі або да адміністраванае саветамі тэрыторыі. Гісторыя беларускага школьніцтва пад іншымі акупацыямі ня цікавіць партыйных гісторыкаў, як не зацікаўленыя былі й цэнзары Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі, каб у БелСЭ быў зьмешчаны артыкул пра Беларускі Настаўніцкі Саюз, створаны 75 гадоў таму.

Зьмешчаны ў гэтым нумары „Беларуса" ўспамін Юльляны Вітан-Дубейкаўскае — прыклад матар'ялу, які прынцыпова адкідаецца савецкімі дасьледнікамі й выдаўцамі, бо ў ім падаецца культурная гісторыя Беларусаў, якое нельга запісаць на бальшавіцкі рахунак ды якая адначасна паказвае на незацікаўленасьць бальшавікоў у станаўленьні беларускае асьветы й культуры.

Семдзесят пяць гадоў таму беларускія настаўнікі стварылі сваю першую арганізацыю, каб супольнымі сіламі дамагчыся найбольш фундамэнтальнага й людзкога права — навучаць дзяцей свайго народу ў іхнай роднай мове. Вялікі й слаўны шлях прайшло беларускае настаўніцтва за гэтыя тры чверці стагодзьдзя. Хвала яму за гэта і ўдзячнасьць ад тых, каму настаўнікі перадалі сваю веду й сваю беларускую душу.

Газэта „Беларус" ганарыцца тым, што сярод ейных найбольш актыўных працаўнікоў і супрацоўнікаў было й ёсьць гэтак шмат настаўнікаў.

# "ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

**(ДА 100-Х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА)**

**(Пачатак і працяг у нумарох 294-295, 296, 297, 298, 299)**

Але найбольш шырокімі ды важнымі, ужо эўрапейскімі форумамі, на якіх давялося Івану Луцкевічу прадстаўляць беларускую справу, сталіся зьезды народаў Расеі ў Штакгольме і ў Лёзане ў 1916 годзе. Газэта „Гоман" пасьля гэтых зьездаў у № 46 за 21 ліпеня 1916 г., у артыкуле „Першыя выступленьні" за подпісам „І. Мялешка" (як ужо згадвалася, гэтак падпісваліся артыкулы, накіданыя Іванам, а канчальна апрацоўваныя Антонам Луцкевічам) дала гэткую ацэну гэным падзеям:

> Народ, каторы сто гадоў маўчаў, губляе зусім свой голас, ня ўмее гаварыць аб сабе й за сябе. Але бываюць такія здарэньні ў жыцьці прыгнечаных народаў, каторыя прымушаюць іх падаць свой голас, вырываюць той голас з грудзей. У нас, у Беларусоў, гэта першы раз зрабіла вялікая расейская рэвалюцыя, тады вырваўся з грудзей народу крык: „Жыве Беларусь!" — і пачалася ўнутраная творчая работа над адбудаваньнем нацыянальнай культуры, над агульным адраджэньнем. А цяпер зноў вайна прымусіла наш народ заявіць аб сабе, і гэты раз выступіць перад усім сьветам.

Такім выступленьнем была дэклярацыя Беларусоў на зьезьдзе народаў Расеі ў Штакгольме й пасылка дэлегатаў на толькі што закончыўшыся зьезд ў Лёзане.

А напярэдадні гэтага зьезду ў Лёзане той-жа „Гоман" у № 34 за 9 чырвеня 1916 г., у непадпісаным рэдакцыйным артыкуле „Будова асноў будучыны" выказаўся пра справу вызваленьня прыгнечаных — „уціснутых" паводля слова газэты — народаў Расейскае імпэрыі зусім у духу згадванага вышэй, падтрымванага Іванам Луцкевічам „полінацыяналізму". Пра гэтую справу вызваленьня ўціснутых народаў Расеі аўтар непадпісанага рэдакцыйнага артыкулу, якім мусіў быць рэдактар газэты Вацлаў Ластоўскі, пісаў:

> Каб забясьпечыць ім волю, трэба дабіцца ўнутранай перастройкі Расейскай дзяржавы, трэба разарваць адвечныя путы, у якія царскі ўрад закаваў ня толькі „інародцаў", але й свой маскоўскі народ. Гэту справу разьвязаць шмат цяжэй, і правядзеньне ў жыцьцё тэй ці іншай пастановы будзе вымагаць супольнай працы з расейскім народам, каторы гэтаксама, як усе „інародцы", пакутуе пад страшным уціскам і жджэ вызваленьня.

Гэтак яшчэ ў 1916 г. пісаў Вацлаў Ластоўскі — „адзін зь ідэолягаў беларускага нацыяналізму", як азначае-кляймуе яго Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (том VI, б. 267). І як-жа актуальнымі гучаць ягоныя словы й сяньня, калі ўсё яшчэ стаіць справа вызваленьня народаў, уціснутых Расейскай — у міжчасе перназванай ужо ў Савецкую — імпэрыяй, ды як далёка ня ўсе яшчэ, што ўважаюць сябе за тых „ідэолягаў нацыяналізму", усьведамляюць сабе ўсю праўду гэных словаў...

Вацлаў Ластоўскі разам зь Іванам Луцкевічам паехаў у беларускай дэлегацыі на згадваны зьезд (ужо трэйці з парадку) народаў Расеі ў Лёзану, які адбыўся там 27-29 чырвеня 1916 г., і разам зь ім, відаць, узяў удзел у ўкладаньні „Мэмарандуму прадстаўнікоў Беларусі", паданага на гэты зьезд (беларускі тэкст Мэмарандуму быў зьмешчаны ў газэце „Гоман" № 52 за 11 жніўня й № 53 за 15 жніўня 1916 г. у артыкуле „Рэляцыя аб зьезьдзе ў Лёзане"; між іншага, у гэтым Мэмарандуме ці ня ўпяршыню быў ужыты тэрмін „беларуска-крывічанскі", за які, ужо ў форме „крыўска-беларускі", як за найбольш адпаведны назоў нашага народу змагаўся Ластоўскі пазьней, галоўна ў сваім часапісе „Крывіч" у 1923-26 г.г.).

„Мэмарандум прадстаўнікоў Беларусі" даваў сьціслы, але грунтоўны нарыс усяе гісторыі Беларусі ад найдаўнейшых часоў, адразу-ж падчыркваючы, што ад IX да XIII веку гісторыя Беларусі — гэта абраз „бязупыннага й цьвёрдага змаганьня Беларусоў за сваю абасобленасьць ад Кіева, Ноўгарада і Ўсходу", а далей таксама падчыркнена высьвятляючы вызначальную ролю беларушчыны ў Вялікім Княстве Літоўскім („у васнову дзяржаўнага кіраўніцтва Вял. Княс. Літоўскага прынята была беларуская мова") і нарэшце даючы поўны абраз паняволеньня Беларусі Расеяй ды канчаючы аглядам беларускага нацыянальнага руху да вайны, калі „за 10 гадоў да 1915 г. Беларусы здолелі стварыць сваю літаратуру, высунуць спаміж сябе паэтычныя й літаратурныя таленты, арганізаваць нацыянальныя, культурныя й палітычныя арганізацыі". Мэмарандум канчаўся гэткім пасажам:

> Блізка ўжо год нямецка-расейскі фронт знаходзіцца пераважна на беларускай зямлі, і Беларусам прыходзіцца вынасіць увесь цяжар вайны, падлягаючы поўнай эканамічнай руіне й культурнаму застою. Але як ні цяжкія перажываныя намі варункі, яны пазваляюць нам першы раз

**(Працяг на 4-ай бач.)**

# ДВОЙЧЫ НА ВЫГНАНЬНІ

Сёлета на 7-га траўня прыпалі 80-я ўгодкі народзінаў паэта Язэпа Пушчы ,асуджанага валадарамі савецкай Беларусі на творчае забыцьцё. Ягоны жыцьцёвы шлях быў выбоісты, зь вятрамі сьцюжнымі. З пражытых 64-х гадоў больш за чвэрць стагодзьдзя адабрала выгнаньне — пару самаабяцальную, творча ўзыходную.

Зборнік „Дні вясны" (1927 г.) ахоўнікі непарушнасьці хваласьпеву сустрэлі варожым асудам. Пушча першым трапляе ў крамольныя паэты. Наперад вычуваючы нядобрае, ён пісаў — „аддаў.... песьні суровым пабоям". У „пабоях" на ўвагу ня бралася, а ганьбавалася дасяжнасьць прост клясычнай мастацкай сьпеласьці. Зьвінавачвалі ў нежаданьні бачыць тое сацыялістычнае будаўніцтва, упікалі, што паэтава Беларусь гістарычна ў цярновым вянку, што ейнае „штогод... спраўлялі ўкрыжаваньне".



**Язэп Пушча (20. 5. 1902 — 14. 9. 1964)**

Пушча не займаўся ніякай палітыкай. Ён быў толькі паэтам, які вызнаў незалежнасьць мастацкай творчасьці ад пабочных чыньнікаў. Беларусь сталася асноваю, жыцьцядайнаю творчаю крыніцаю, творчай субстанцыяй паэта. За вольнадумства, а яно было й іншадумствам у мастацкім выяўленьні мінулага й сучаснага Беларусі, якую паэт называў — „Айчына сьвятая", праз усё жыцьцё сьцігала яго зласьлівая напасьць.

У фармаваньні нацыянальнае сьведамасьці вылучную ролю мелі курсы беларусазнаўства ў Менску, якія малады настаўнік закончыў у 1922 годзе. На курсах выкладалі ведамыя навукоўцы й нацыянальныя дзеячы, пазьней вынішчаныя бальшавікамі.

А пакуль надыйдуць змрокі — шырэлі прасьветы й спадзяваньні, разгортвалася стваральная нацыянальная праца. Была пара вымушанай лібэральнасьці, афіцыйнай „беларускасьці". Па курсах Пушча цалкам аддаецца нацыянальна-культурнай працы. Неўзабаве ён будзе адным зь ініцыятараў стварэньня літаратурнай арганізацыі „Маладняк", а пазьней „Узвышша".

### Паэт „задзірыстай навізны"

На пачатку 20-х гадоў ішоў у літаратуру сардэчна лірычны паэт, закаханы ў народныя звычаі, сьпеўныя мэлёдыі свайго народу, усхваляваны красою родных прастораў, заклікальна вабных даляў. Разам з гэтым было імкненьне да навізны ў дзялянцы паэтычнай вобразнасьці.

Першы зборнік вершаў меў назоў „Раніца рыкае" (1925 г.). Кансэрватыўна прызвычаеных навет сам назоў нэрваваў, а прыхільнікаў нечаканай навізны захапіў. Згадваючы той даўны час, шмат маладзейшы паэт Грахоўскі пісаў: „Гэтыя два словы ў такім нязвычайным спалучэньні адразу ўразілі мяне сваёй маляўнічасьцю й выразнасьцю, сваёй нейкай задзірыстай навізной. „Раніца рыкае" запомнілася аж да гэтае пары.. Настрой ад зборніка застаўся на ўсё жыцьцё".

Былі ўдачы й хібы, як у кажным пачынаньні, асабліва ў маладосьці. Але адразу ад першага зборніка імя Пушчы сталася ведамым.

### У гістарычнай традыцыі апазыцыйнасьці

Хутка пашыраўся ў глыбеў творчы абсяг. Побач з захапленьнем „уцехай палёў Беларусі" зьяўляюцца пачуцьці гневу, а зь імі й пачуцьці смутку. Гневу да тых, хто „Беларусі ў вочы плёваў". У зборніку „Віта" (1926 г.) ад вызнаньня — „я для Беларусі мілай радасьць дзён нашу" было неадлучным сьцьверджаньне — „ўсю крыўду за сваю Айчыну мы вылічым у судны дзень".

Асаблівую зласьлівасьць выклікаў верш, ськіваваны навонкі, прысьвечаны чаканаму ў Менску паэту паняволенай каляніяльнай Бэнгаліі Рабіндранату Тагору. Да генія „народаў забраных" кіраваліся балючыя прызнаньні — „хацелі народ мой чужынцы зьняславіць", „кветкі крыві парасьлі ў Беларусі". Недаравальнікі раілі паэту прайсьці „дэзынфэкцыйную камэру". Заўважым, што ў ня вельмі далёкім часе самі райнікі апынуліся дый загінулі у тэй камэры.

Ад даўнага часу апазыцыйнасьць да ўстаноўленага стану рэчаў сталася вызначальнай асаблівасьцяй беларускай літаратуры. У гэтай гістарычнай традыцыі, адно ў іншыя часы, і Пушчава паэзія. Пачалося яно рана ды няспынна набірала ўсё большае духовае й мастацкае моцы.

Па зборніку „Дні вясны" у кірунку нічым няпрыкрыванай ускрайнай дысгарманічнасьці што да афіцыйнай дагматыкі быў зборнік з гэткім нязвычайным назовам — „Песьні на руінах" (1929 г.). Руйнаваньне нацыянальнае й духовае свабоды народу было ягоным зьместам.

### Пара найбольшага творчага ўздыму

У 1927-29 г.г. Пушча вучыўся ў ленінградзкім унівэрсытэце. Была пара найбольшага творчага ўздыму. Ствараецца вялікі цыкль вершаў высокай паэтычнай культуры, дзьве паэмы, зь іх адна прост унікальная ў беларускай літаратуры — „Ценю Консула", якая пачынаецца зьедлівай сатырай на палітыку і ейнага паслугача паэта.

Вершы ленінградзкае пары былі нячуванымі сваім адмаўленьнем устаноўленых канонаў што да нацыянальнага быцьця. Яны былі выяўленьнем глыбока ўсхваляваных пачуцьцяў і балеснага роздуму, выкліканых нацыянальнай няроўнасьцяй, гістарычным уярэмленьнем Беларусі. У іх як-бы зьбеглася мінуўшчына й сучаснасьць у сваё адзінства. Гэта былі песьні жальбы й смутку — „бы ў душы паэта гнеўныя усплёсы", як тыя хвалі, што „ўзьнімаюць на Няве трывогу" ды „размываюць цёс гранітных граняў".

У юбілейны 1927 год бальшавіцкага Кастрычніка ў часапісе „Узвышша" зьявіліся асабліва непасавальныя да сьвяточнасьці вершы: спачатку "На ростані", а ў часе самой урачыстасьці — „Асеньнія песьні" й „Лісты да сабакі". Адных яны захапілі ў зьдзіўленьні паэтавай адважнасьцяй, а ўладаможных шыбанулі ў ліхаманкавае абурэньне, былі расцэненыя, як замах на

**(Працяг на 2-ой бач.)**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 300 НУМАРОЎ "БЕЛАРУСА"

Выдаючы 300-ы нумар нашае газэты, хочам адзначыць чатыры аспэкты ейнага значаньня: 1. „Беларус" — гэта сувязьнічы паміж расьселенымі па цэлым сьвеце суродзічамі ды паміж імі й родным краем. 2. „Беларус" — гэта месца дакумэнтаваньня жыцьця й дзейнасьці беларускае эміграцыі ды ейнае працы на карысьць беларускае нацыянальна-вызвольнае справы. 3. „Беларус" — гэта голас Беларусі перад вонкавым сьветам аб праве й дамаганьнях беларускага народу жыць свабодным і незалежным жыцьцём.

Чым далей, тым вайстрэй вырастае перад газэтай і чацьверты аспэкт — заданьне стацца мастом паміж старэйшым беларускамоўным і маладым, у васноўным іншамоўным (у вялікай меры англамоўным) пакаленьнем. Пакаленьню гэтаму трэба перадаць як мага больш веды пра мінуўшчыну й сучаснасьць Беларусі, каб яно магло максымальна ўплываць на фармаваньне будучыні — і свае собскае і краю паходжаньня бацькоў. З гэтай мэтай у газэту й была ўведзеная англамоўная балонка, якая, на добры лад, мусіла-б падвоіцца плошчай ды стацца асобнай укладкай, якую можна было-б рассылаць як разам з газэтай, гэтак і асобна. Спадзяёмся, што нашыя ахвярадаўцы й падпішчыкі падтрымаюць гэты намер рэдкалегіі прызнаньнем слушнасьці яго ды грашовымі ахвярамі. Лік патэнцыяльных чытачоў, а ў пэрспэктыве й падпішчыкаў англамоўнага „Беларуса" вялікі, заданьне дайсьці да іх зь інфармацыяй і аргумэнтамі — вельмі важнае, і маральны абавязак старэйшых перадаць сваю веду ды перакананьні малодшым не патрабуе лішніх довадаў, ён відавочны.

На гэтым месцы на парозе чацьвертае сотні нумароў нашага супольнага друкаванага форуму рэдкалегія „Беларуса" шчыра дзякуе ўсім супрацоўнікам, ахвярадаўцам і прыхільнікам за выдатнае падтрыманьне газэты — маральнае й фінансавае.

**Рэдкалегія „Беларуса"**

# ПАКЛЁП НА БЕЛАРУСАЎ ЗША

У нядзелю 16 травеня 1982 г., а 7-ай гадзіне ўвечары найбольшая амэрыканская тэлевізійная станцыя Сі-Бі-эС перадала паўгадзінную перадачу пад заг. „Нацыстаўскія сувязі" — пра беларускіх калябарантаў зь Немцамі ў часе Другое сусьветнае вайны ды пра сувязі й супрацоўніцтва гэтых „калябарантаў" з амэрыканскімі разьведвальнымі службамі пасьля вайны. З абвінавачаньнямі выступіў у перадачы адзін з былых сьледчых Міністэрства юстыцыі ЗША Джон Лофтус (Амэрыканец ірляндзкага паходжаньня, каталік, як было зазначана ў перадачы). Лофтус абвінаваціў таксама Міністэрства абароны ЗША ды разьведвальную службу Дзяржаўнага Дэпартаманту ў тым, што яны „прашмуглявалі" ў Амэрыку сотні гітлераўскіх калябарантаў, у тым ліку й Беларусаў. Мала таго, кажа Лофтус, сакрэтныя амэрыканскія службы прыкрывалі сваю незаконную акцыю „шмугляваньня" тым, што адмаўляліся супрацоўнічаць з Аддзелам Адмысловых Расьсьледваньняў Міністэрства юстыцыі ЗША, створаным у 1980 г. для разгляду справы былых нацыстаўскіх калябарантаў, што прабраліся ў Амэрыку.

У перадачы было сказана, што „больш за трыста беларускіх нацыстаў жывуць цяпер у Амэрыцы". Канкрэтна, аднак, былі названыя толькі пяць прозьвішчаў: Станіслаў Станкевіч, Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Фараньцішак Кушаль і Эмануіл Ясюк.

Джон Лофтус напісаў кніжку пра калябаранцтва на Беларусі пад заг. „Беларускі сакрэт". Кніжка мае выйсьці з друку ўвосень сёлета.

Як выглядае з таго, што казаў Лофтус на тэлебачаньні, Беларусь была й засталася для яго „сакрэтам". Сумлеўна, ці ён чытаў штонебудзь пра Беларусь апрача рапартаў і даносаў на беларускіх „калябарантаў" ў папках Аддзелу Адмысловых Расьсьледваньняў Міністэрства юстыцыі ЗША, ды савецкіх матар'ялаў, дасланых Міністэрству юстыцыі ЗША Масквою.

Падбудаваць Лофтусаву верагоднасьць імкнуўся й карэспандэнт Сі-Бі-эС Майк Ўолэс, які вёў перадачу „Нацыстаўскія сувязі", тэндэнцыйным падборам выказваньняў апытаных ім асобаў.

Назаўтрае і ў далейшыя дні пра перадачу Сі-Бі-эС пісалі ўсе вядучыя органы друку ня толькі ЗША, але й Канады, Вялікабрытаніі ды іншых краёў, падалі пра яе таксама агенцтвы друку, Асошыэйтэд Прэс, Ройтэр, у тым ліку й ТАСС.

Беларусаў Амэрыкі, як і Беларусаў па цэлым сьвеце, перадача „Нацыстаўскія сувязі", як можна сабе ўявіць, абразіла й абурыла сваім паклёпніцкім характарам, што выплываў ня толькі зь бездапаможнае непаінфармаванасьці пра Беларусь часоў вайны тых, што вялі перадачу, але й злаўмысным агульным ачарняньнем і тых, хто быў названы ў перадачы, . ўсіх Беларусаў ды Амэрыканцаў беларускага паходжаньня.

Беларускія арганізацыі Амэрыкі войстра зарэагавалі на паклёп лістамі ў Сі-Бі-эС, у газэты ды да сваіх прадстаўнікоў у Кангрэсе. Адпаведна зарэагавала таксама Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі лістом у газэту „Дэйлі Тэлеграф".

Газэта „Беларус" дае крытычны разгляд перадачы Сі-Бі-эС на англамоўнай старонцы гэтага нумару. Мы будзем далей інфармаваць нашых чытачоў пра ход гэтае скандальнае спробы ачарніць імя беларускае паваеннае эміграцыі.

Тымчасам маем да ўсіх настойлівую просьбу: калі ласка, прысылайце ў рэдакцыю „Беларуса" (або на прыватныя адрасы ягоных супрацоўнікаў) усе выразкі з друку з рэакцыяй на перадачу Сі-Бі-эС. Прысылайце таксама свае меркаваньні на тэму ўсяе гэтае антыбеларускае кампаніі.

Між іншага, дзевяць дзён да сі-бі-эсаўскае перадачы савецкая армэйская газэта „Красная звезда" ў артыкуле пад заг. „Пярэваратні за акіянам" пісала, што амэрыканскія ўрадавыя ўстановы сталіся прыпынішчам для ваенных злачынцаў і былых нацыстаў. „Фашызм цяпер у модзе ў Вашынгтоне", падсумавальна пісала „Красная звезда".

Мяркуйце самі, зь якіх крыніцаў ды на чый млын плыве вада зь сі-бі-эсаўскае перадачы, пабудаванай на тэндэнцыйных выказваньнях.

**Рэдакцыя**

# ДВОЙЧЫ НА ВЫГНАНЬНІ

**(Працяг зь 1-ай бач.)**

афіцыйна праклямаваны росквіт беларускай дзяржаўнасьці.

**„Псальмы аб краіне роднай"**

У вершах Беларусь паўставала ня ў юбілейна прапагандовых шатах, а „найміцай астатняй ў вапранасе рванай днём і ноччу хмарнай", у вобразе ўкрыжаванай „на растані ўсходня-заходніх дарог". Паэт малітоўна пытаўся: „Хто з крыжа краіну расьпятую здыме? Ўзываю, малюся у грэшнай істоце". Гэтак навет з Пушчавых прыяцеляў-аднагодкаў ніхто ня пісаў. З балесна-спавядальным прызнаньнем паэт зварачаўся навонкі, як-бы шукаючы маральнага падтрыманьня:

Ой, Зямля-Плянэта і браты народы!
Я спраўляю штодзень страшнае маленьне:
Расьпяваю псальмы аб краіне роднай,
Расьпяваю ўвечар, стаўшы на калені.
Сашчамляю рукі і ўзьнімаю ўгору,—
Хоць ня містык духам, не манах пакорны.

Рэзананс быў нязвычайны. Нападніцкую кампанію распачалі ды ўзначалілі вышэйшыя прадстаўнікі ЦК партыі, у яе ўлучыліся й ейныя паслугачы. А дзеля большай важкасьці й розгаласу ўсё афішавалася пад імя „пралетарскай грамадзкасьці". Зьвінавачваньні былі штампаваныя: сьвядомае занядбаньне „росквіту", пэсымістычнае ўпадніцтва, няўдзячнасьць да ўладаў, а ў прыдачу, як абагульненьне — ніколі недаравальны „буржуазны нацыяналізм". Неўзабаве ў сувязі зь незакончанай паэмай „Сады вятроў" зьявілася ў друку ад імя ўсё тэй-жа „грамадзкасьці" бэзапэлявыйна коратка — „ты ня наш".

А Пушча загадзя сустракаў усё гэта зьдзекліва-саркастычна:

Нашто-ж мне падхалімам быць, крывіцца
І ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам
Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў,
І супраць ветру размахнуць крыламі.
Хто хоча — кпіце над пясьнярскім лёсам,
І бэсьце, лайце у гандлярскай краме.

Зьвінавачвальнікам, што адбіралі творчую, а зь ёй і наагул чалавечую духовую свабоду ды адсылалі „душу і песьню на лядоўню", — гнаны паэт адказваў гэтак-жа мужна, як і пісаў свае крамольныя творы. Ён не скарыўся, не аддаў свае паэзіі ў паслугацтва да палітыкі. **Застаўся неслухам. Адно ў** ягонай творчасьці пашырылася плынь войстрае іроніі.

У кірунку ранейшага самасьцьверджаньня — „не ўпаду да ног я ніцма" было — „ня стлеў, ня згас", „вольнай песьні ня угрунíць". Навет малітоўная дэманстрацыйнасьць свае неадступнасьці:

Запалю ліхтарню сёньня ўночы
І сьпяю пры ёй мяцежны гімн.

Неадступніцтва, духовая моц засталіся няскранутымі, бо яны былі ў непарушнай духовай еднасьці з народам сваім:

Адным кілішкам п'е са мной народ
Пітво непадфарбованае зельлем.

Навет прадчуваючы, што „пясьнярская дарога не давядзе мяне к дабру", — паэт нязбочна ішоў шляхам незалежнай творчасьці, духовага непадданства аж пакуль не перацялі гэты шлях сіламоцай сталінскія апрычнікі.

Пачыналіся пяцігодкі й калектывізацыя, а зь імі й апраметная пара тэрарыстычнага вынішчэньня найперш усяго нацыянальна дзейнага. У 1930 г. Пушчу разам з часткаю сяброў „Узвышша" арыштавалі. Навет зьвінавацілі ў тэрарызьме. Ды як-жа йнакш. У вершы было няхай мройлівае, але наважна высокае паклíканьне: „З чала краіны вырву ўсё-ж я церні, каб болю іх ня ведаў болей сын". З гледзішча ахоўнікаў „парадку" гэта, відаць, і быў замах. Паэту прызначылі высылку на ўральскую поўнач, а на ўсю творчасьць наклалі забарону.

Бальшавіцкае выгнаньне й паэтычная творчасьць — рэчы супрацьлежныя. Але выгнаньне не адабрала яе цалком. Шмат пазьней сёетое трапіла ў друк і мела выразную Пушчаву інтанацыю. На выгнаньні забралі ўвагу славутыя Байран і Міцкевіч сваім свабодалюбствам і няскоранасьцяй перад тыраніяй. Ствараецца легэнда „Залаты струмень" з падтэкставым нацыянальным чытаньнем.

Як і заўсёды, паэта не пакідалі патрыятычныя пачуцьці. Зь нейчае добрае волі па сьмерці ўжо, калі яшчэ неяк цеплілася палітычная адлега, зьявіліся ў альманаху „Дзень паэзіі" (1965 г.) у разьдзеле „Дарагія імёны" вершы „Зь неадасланых лістоў" з гэткай заўвагай: „Гэтыя вершы напісаныя Пушчам у пэрыяд культу асобы".

Пра выгнаньне Пушча пісаў без падробкі, безь ідэялягічнага апраменьваньня, як гэта рабілі іншыя, атуляючы сваю няволю працай на карысьць нязыходнага „сацыялістычнага будаўніцтва". Пушча, як ніхто, называў сябе выгнаньнікам. У ніякі паэтаў зборнік гэтыя вершы ня трапілі.

**Зварот на Беларусь**

Надыйшла пара рэгабілітацыі. Дазволілі вярнуцца на Беларусь. Разам зь сям'ёй Пушча дастаў прытулак у Менску ў 1958 годзе. Вымушаную ростань з родным краем паэт цяжка перажываў. Таму ягоная сустрэча зь ім выяўлялася ў пачуцьцях вітальна радасных. Як і раней, паланіла прыродная краса роднае зямлі й неба. Ягоная „Белавежа" належыць да найлепшых узораў нацыянальна адухоўленых пэйзажных абразоў у нашай літаратуры.

Былі вершы й афіцыйна абавязкавыя, як віза дзеля доступу ў друк. Выгнаньне стаяла не за гарамі, на яго трэ было неяк азірацца, рэгабілітацыя магла здавацца часовай выпадковасьцяй, як усё ў тым няпэўным сьвеце.

Але „Песьні сэрца" няўтольную жыцьцялюбнасьць і жыцьцясьцьвярджальнасьць ужо хворы паэт аддаваў сваёй Беларусі, якая была й засталася праводным вобразам усяе творчасьці. Пра Беларусь у вершы „Маяк жыцьця" ён гэтак пісаў:

Радзіма, твой маяк здалёк відзён
І сьветлай раніцай, і ў поўдзень ясны,
І ў часе навальніцы ён ня гасьне.

Было прызнаньне прост інтымнакахальнае — „штодзень ты у маім ваччу, твой вобраз сэрцу дарагі". Сьцьвярджалася ўпэўненасьць — „дарог-шляхоў зь ёй ня згублю" — „іду і веру скарб знайду". А жаданы скарб стаіць у часе прыйшлым.

У нацыянальна-патрыятычных інтанацыях выяўлялася нязломная й выгнаньнем духовая вытрывальасьць. Ужо на сьхіле дзён свайго жыцьця паэт жыў візіяй прыйшласьці Беларусі ў квецені, без валуноў, што „з паўночных гор гуртом спаўзьлі":

І валуноў гурты ня будуць нас пужаць,
Ня будзе камень на грудзях зямлі ляжаць —
Разьмелюць часу жорны,
І вецер попел згорне.

Пры спатканьні з роднымі прасторамі ў вадлежную пару здавалася, што „слатой зьляцела тля зь лістоў, прыйшоў дзень сонечны, уцешны". Але тут-жа побач паўставаў зь мінулага час „завейны", „вецер золкі" ды „зябкі сьнег". У пазьнейшым вершы „Сталее песьня год ад году", які зьявіўся ў „Полымі" (1962 г.), а пазьней ня быў улучаны ў наступныя зборнікі, паэт, без асуду свайго творчага мінулага, пытаў:

Дзе вы, майго юнацтва вёсны,
Якою рэчанькай сплылі?
На хвалі бурнай ці на сьветлай
Вас вынесла на родны плёс!
Не адшумелі тыя ветры,
Што час на крылах песьні нёс.

Напамін — „не адшумелі тыя ветры" — быў прадчувальна няўнікнёны. Гэта й выявілася неўзабаве ў творчым лёсе паэта.

**Пад цэнзурным ціскам**

У дачыненьнях Пушчы з цэнзурай ня было злагады. У 1928 г. з чатырох вершаў-лістоў да паэтаў у друк трапіў толькі адзін. Каб мінуць цэнзурную пільнасьць, „Асеньнія песьні" ў зборніку давялося падзяліць на паасобныя вершы. Гэтак нібы разбаўляўся кандэнсаваны іхны зьмест. „Лісты да сабакі" ў „Песьні на руінах" не прапусьцілі. Праграмны „Мой маніфэст" зьнік, не дайшоўшы да кнігарні. Пушчу нейкім добрым выпадкам пашчасьціла набыць колькі аўтарскіх паасобнікаў, але іх канфіскавалі пры арышце. У тым жа 1930 г. забаранілі да выданьня найбольшы зборнік „Грэшную кнігу".

У 1960 г. выйшаў зборнік „Вершы й паэмы". У ім адразу й выявілася, што азначала тая рэгабілітацыя. Галоўнае, чым вызначалася давыгнаньніцкая Пушчава паэзія,— засталося пад забаронай. А тое, што зьявілася, рэдактарскай цэнзурай падчышчалася дзеля „падвясельваньня" паэта, ідэялягічнага „прасьветленьня", — безьліч зьместавых выпраўленьняў і скаротаў нечаданага. Шмат вершаў захавалі адно свой даўнейшы назоў. Пад цэнзурным ціскам зьявіліся супярэчныя вершаваму зьместу, а помныя з даўнейшага: замест „кветкі крыві парасьлі ў Беларусі" — „кветкі красы", замест „я чую плач сірочы" — „я чую сьмех дзявочы", замест „ці чулі што-небудзь аб нашым бяспуцьці" — „ці чулі, як рэчкі крынічныя льлюцца" ды інш.

З паэмы „Песьня вайны" цалком выкінулі ейную зыркую нацыянальную сьціраванасьць. Не пакінулі навет згадак пра царскую „Русь сьвятую", бо, бачыце, за яе вымушана мелі гінуць Беларусы.

У парэгабілітацыйны зборнік не дазволілі паэмы „Цень Консула". Не дазволілі, бо ў ёй у вонкава пераапранутую пад нямецкую акупацыю 1918 г. выразна пазнавалася рачаіснасьць савецкая. Апрача ўсяго іншага, у паэме выяўленае прадбачаньне надыходу вынішчальнага сталінскага тэрору ў дачыненьні да тых, хто „паўстаў... супроць манархічных сьвятынь і нейкага хоча краіне збавеньня". Паэма пісалася якраз у часы Сталінавага валадарства. З паэмы „Крывавы

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

**ЗЬ „НЕАДАСЛАНЫХ ЛІСТОЎ"**

Астыў з гадамі, пасталеў,
Білет на песьню здаў у касу,
А вы — ўсё на маім стале,
Вас адасланць ня меў я часу.

Засеяны зямлі пласты,
І ўсходаў ніва прычакае:
Неадасланыя лісты
Мой сын напэўна прачытае.

А можа пройдзе ўсё, міне,
Вярнуся я з багатым ловам,
І крытык памінаць мяне
Ня будзе больш нядобрым словам.

Ўсьміхнецца ў майскіх росах сад,
І моцна верыць маё сэрца,
Што атрымае адрысат
Лісты з расінкай на канвэрце.

Лісты, вас я ў жыцьцё прынёс,
Як сонца сьцяг свой напрадвесьні.
Пра мой раскажаце вы лёс
І пра мае ад сэрца песьні.

***

Даруйце мне маю віну:
Маўчаў я не адну вясну,
Нікому ня пісаў лістоў,
Не варушыў старых пластоў,
Ні леташняй сухой травы.

Калі ляцелі журавы,
Душу кранала іх курлы,
Не аклікалі даль арлы.
Ня раз яшчэ курлы кране
Да глыбіні душы мяне.

Ніколі у сваёй душы
Агню сьвятога ня тушыў,
І не азябну зь ім я век
На беразе сьцюдзёных рэк.

Яшчэ такім ня быў мой дзень
Ні ў радасьці і ні ў бядзе, —
Са мной няма... каго люблю...
Не, гэты ліст не адашлю.
Надыйдзе дзень яго жыцьця,
Калі устане з забыцьця.

***

Вакол суровая тайга,
Я слухаю нязвыклы шум.
Як злодзей, крадзецца туга
Ў маю зьнябытую душу.

І ўсё-ж ёй не зваліць мяне,
Перанясу нягоды ўсе.
Мяне мой лёс не абміне,
Уцехі зорку прынясе.

Сустрэну родную сваю
І нізка пакланюся ёй.
Бязь песьні цяжка салаўю,
Як без радзімы мне сваёй.

Крылаты дружа-салавей,
У гай надрэчны прыляці
І смутак крылцамі разьвей
Ў маім нярадасным жыцьці.

Я тут выгнаньнік, а ня госьць,
І ўсё-ж ня трачу я надзей.
Народ усюды добры ёсьць
І не пакіне у бядзе.

Хоць іскры сыплюцца з вачэй
І прытупіўся трохі плуг,
Усё-ж знайду я сіл яшчэ,
Каб узараць дзірван за двух.

Я веру: праясьнее даль,
Над намі сонца будзе зьзяць.
Гарачы сонечны крышталь
Не пабаюся ў рукі ўзяць.

І прыгарну, і прытулю,
Каб не азябла сэрца век,
І абніму сваю зямлю,
Як сын, паэт і чалавек.

**Гэтыя вершы Пушча напісаў на ссылцы.**

# УГОДКІ 25 САКАВІКА

(Працяг з № 299)

### ЧЫКАГА, ЗША

Сёлета, як увайшло ўжо ў традыцыю, урачыстае сьвяткаваньне 65-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі папярэдзіла інфармацыйна-мастацкая выстаўка ў фае чыкагаўскага Грамадзкага Цэнтру імя Рычрда Дэйлі, якая трывала ад 14-га да 31-га сакавіка. Гэтая выстаўка заўсёды робіць добрае ўражаньне, а дзеля таго, што яна была адна ў гэтым рухлівым фае, вялікая колькасьць людзей магла яе добра агледзець.

Ужо 11-га сакавіка найбольшая штодзённая газэта ў Чыкага „Чыкага Трыбюн" надрукавала кароткую даведку аб сьвяткаваньні й выстаўцы ў Чыкага. Тыднёвая газэта „Лернэр Таймс" зьмясьціла даволі абшырны інфармацыйны артыкул аб сьвяткаваньні й гісторыі 25-га Сакавіка.

У нядзелю 21-га сакавіка Беларускае Радыё ў Чыкага ў спэцыяльнай сьвяточнай праграме паведаміла аб сьвяткаваньні незалежнасьці БНР. Кіраўнік праграмы сп. Нікодэм Жызьнеўскі падаў кароткую гісторыю 25-га Сакавіка ды запрасіў усіх Беларусаў і прыяцеляў узяць удзель у сьвяткаваньні. Адзін з нашых маладых Беларусаў, Юрка Б., прадэклямаваў верш Янкі Купалы „Выйдзі . . .". Праграма закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

У чацьвер 25-га сакавіка наш бел-чырвона-белы сьцяг красаваўся на будынку гарадзкой управы побач з амэрыканскім і гарадзкім сьцягамі ды першы раз таксама на будынку адміністрацыі штату Іліной.

Дзякуючы няўтомнай працы Кардынацыйнага Камітэту і яго старшыні сп. Васіля Пунтуса, Беларусы ў Чыкага сьвяткавалі і сёлета ўсе разам.

У нядзелю 28-га сакавіка ў беларускіх цэрквах Сьв. Юр'я і Хрыста Збаўцы былі адпраўленыя багаслужбы за Беларусь і беларускі народ.

А гадзіне 1-ай папаўдні прыгожая банкетная заля Рыджэнсі Інн запоўнілася суродзічамі й запрошанымі гасьцямі. Таварыская атмасфэра кактэйлевага часу дала ўсім нагоду спаткацца, пагаварыць і пажартаваць.

Урачыстая частка пачалася адсьпяваньнем сп-няй Верай Рамук амэрыканскага гімну пры акампанімэньце сп. Гэнрыка Янчэўскага, знанага Беларусам піяніста ў Чыкага. Айцец Арх. Уладзімер Тарасэвіч сказаў малітву-інвакацыю, па якой хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць усіх тых, што аддалі жыцьцё за Бацькаўшчыну. Старшыня Камітэту В. Пунтус прывітаў усіх і пачаўся сьвяточны банкет.

Па абедзе сп. Н. Жызьнеўскі прадставіў запрошаных гасьцей.

Др. Вітаўт Кіпель, галоўны прамоўца на нашым сьвяткаваньні, зрабіў цікавы даклад паангельску аб гісторыі 25-га Сакавіка, навязваючы да „Нашай Нівы" ды ейнае ролі ў разбуджэньні нацыянальнай сьведамасьці Беларусаў.




**На беларускай выстаўцы ў Цэнтры імя Р. Дэйлі. Беларускія прадстаўнікі із сп-няй Роўз Фарына (пасярэдзіне), загадчыцай аддзелу спэцыяльных і мастацкіх падзеяў у Гарадзкой Управе Чыкага.**

Піяніст сп. Г. Янчэўскі выканаў укладзеную ім памайстэрску вязанку беларускіх народных мэлёдыяў.

Дарагім госьцем сёлетняе ўрачыстасьці быў вялікі прыяцель паняволеных народаў, змагар за правы чалавека кангрэсмэн Фрэнк Анунцыё. Старшыня Каардынацыйнага Камітэту сп. В. Пунтус у часе акадэміі ўручыў яму адмысловую таблічку з прыгожа выгравіраваным надпісам: „Яго годнасьці Фрэнку Анунцыё ў удзячнасьці за ягоныя заслугі для беларускай грамады ў Чыкага, Іліной". Кангрэсмэн Анунцыё падзякаваў Беларусам ў Чыкага за ўшанаваньне яго (ягоную прамову гл. у папярэднім нумары „Беларуса").

Студэнт Янка Рамук прачытаў праклямацыю губэрнатарам штату Іліной Джэймсам Р. Томпсанам Дня Беларускае Незалежнасьці ў штаце Іліной.

Прысутны на сьвяткаваньні адзін са спонсараў праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці Генэральнай Асамблеяй Штату Іліной, сп. Роджэр Мэкаліф прачытаў праклямацыю сам асабіста. Праклямацыя гэтая поўная сымпатыі да беларускага народу і ў сваім апошнім абзацы кажа: „Пастаноўлена Палатай Прадстаўнікоў 83-яй Асамблеі Штату Іліной далучыцца да Амэрыканцаў беларускага паходжаньня ў іхнай надзеі й малітвах, каб свабода і справядлівасьць былі йзноў адноўленыя ў іхным краі, а гэтая рэзалюцыя няхай нагадвае ўсім людзям, што ніхто ня можа быць свабодным, пакуль усе людзі ня стануцца свабоднымі".

Сп-ня Даен Сідарэвіч прачытала праклямацыю мэрам г. Чыкага Джэйн Бырн Дня Беларускае Незалежнасьці ў Чыкага.

З запрошаных гасьцей ад Украінцаў прамаўляў сп. Стэпан Голяж, першы заступнік старшыні Ўкраінскага Кангрэсавага Камітэту на Іліной. Таксама ад Украінцаў прамаўляў пастар Алекса Гарбузюк, старшыня Усеукраінскага Эвангельскага Таварыства Амэрыкі й Канады. Ад казацкай станіцы імя Калабухава ў Чыкага прывітаў Беларусаў сп. Алекс Саснавы. Сваёй прысутнасьцяй ушанавалі ўрачыстасьць таксама сп. Джэймс Паркэр, асыстэнт сэнатара Анунцыё; альдэрмэн Люі Фарына і ягоная жонка Роўз Фарына, асыстэнт мэра гораду для спэцыяльных і мастацкіх падзеяў; сп. Багдан Паўкэ, аўтар шматлікіх артыкулаў у чыкагаўскай прэсе пра Беларусь, філятэліст, які цікавіцца беларускімі паштовымі маркамі; праф. Анджэлё Монтэлеонэ, аўтар падручніка гісторыі Ўсходняй Эўропы, прыяцель Беларусаў у Чыкага.

Ізноў пачуліся беларускія мэлёдыі ў выкананьні сп-ра Вільляма Янчэўскага на клярнэце і сп-ра Гэнрыка Янчэўскага на піяніна.

Па рэфэраце д-ра В. Кіпеля ўсе супольна адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

Сп. Г. Янчэўскі выканаў на піяніна „Беларускую фантазію" Міколы Куліковіча.

Малітвай ўдзячнасьці а. Варнавы Санчыка, настаяцеля парахвіі сьв. Юр'я, адсьпяваньнем рэлігійнага гімну „Магутны Божа" ды падзякай старшыні Каардынацыйнага Камітэту ўрачыстасьць закончылася.

Праграму вельмі добра вялі сп. Нікодэм Жызьнеўскі і сп. Павал Сянкевіч. Вялікая ім падзяка ад усіх нас.

**А. Бяленіс**

### РЫЧМОНД ГІЛ, ЗША

Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 4 красавіка, ладзіла Беларуска-Амэрыканскае Аб'яднаньне ў Нью Ёрку. У царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіле гэтым разам сабралася даволі ладна людзей. Літургію адправіў а. Грэгоры О'Кіф паангельску. Хор (пад кір. сп. С. Жамойды) сьпяваў, як звычайна, пацаркоўнаславянску.

Малебен за беларускі народ адслужылі а. Віталі Сагайдакіўскі й а. Грэгоры. У царкве стаяла ганаровая варта са сьцягамі. Багаслужба закончылася „вечнаю памяцьцю" паўшым беларускім змагаром ды „мнагалецьцем" беларускаму народу.

Акадэмія адбылася ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры пад царквой. Адчыніў акадэмію сп. К. Мярляк, старшыня БАА, амэрыканскім гімнам. Прывітаўшы ўдзельнікаў, сп. Мярляк, які вёў урачыстасьць, пералічыў здабыткі ў мінулым ды выказаў надзею на будучыню. Хвілінаю цішыні была ўшанаваная памяць беларускіх гэрояў.

Былі прачытаныя праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці ў штатах Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Канэтыкэт. Трэба зазначыць, што зьмест іхны даволі шырока гаварыў аб беларускай гісторыі й нацыянальных беларускіх асьпірацыях.

Рэфэрат чытаў інж. Васіль Мельяновіч. Тэму 25 Сакавіка прэлегент напоўніў патрыятычным зьместам. Гэта была бойкая прамова, заклік ведаць што гэта — 25 Сакавіка ды змаганьне й праца над адраджэньнем ягонага ідэалу — вольнае й незалежнае Беларусі. Сп. Мельяновіч прачытаў у канцы два прысьвечаныя Беларусі вершы паангельску, якія напісала амэрыканская паэтка Джуды Бак.

З прывітаньнямі выступілі госьці: сп-чна Рая Станкевіч ад галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, сп. Міхась Сенька ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, сп. Юрка Азарка ад галоўнае ўправы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, сп. Аляксандар Міцкевіч ад ньюёркаўскага аддзелу БАЗА.

Сп. Мярляк вітаў прысутных на акадэміі сп-ню З. Станкевіч ад газэты „Беларус" і сп. С. Гутырчыка ад Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў зь Нью Брансьвіку. Сп. Мярляк пералічыў атрыманыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў.

Афіцыйная частка закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

За сталамі пры супольным абедзе гутарыць было аб чым, бо грамада сабралася даволі вялікая, некаторыя былі здалёку, некаторыя ўпяршыню. Пяялі песьні. Былі паведамленьні й выступленьні. Сп-ня З. Станкевіч заклікала ўсіх падтрымаць газэту „Беларус". А сп. Мярляк папрасіў а. В. Сагайдакіўскага сказаць прынагоднае слова. Гэта было вельмі цікавае выступленьне з трапным падыходам да пытаньня беларуска-ўкраінскіх дачыненьняў.

**В. Ш.**

# "ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

(Працяг зь 1-ай бач.)

за 120 гадоў няволі раскрыць перад культурным сьветам наша бясправўнае палажэньне ў Расейскай дзяржаве, пазваляюць нам шукаць у культурных народаў сьвету спачуцьця й абароны нашых чалавечых і культурна-народных правоў і карміцца надзеяй, што які-б ні быў канец вайны, культурныя народы сьвету памогуць абясьпечыць Беларусам такую паўнату культурных і палітычных правоў, каторая дасьць нашаму народу змогу вольна разьвіваць свае духоўныя й матар'яльныя сілы, дасьць змогу стацца нам вольнымі гаспадарамі свайго краю.

Апрача агалашэньня гэтага мэмарандуму на зьездзе, Іван Луцкевіч выступаў там і асабіста. Юльляна Дубейкаўская піша ў сваіх успамінах, што Іван ёй „падрабязна апавядаў, як ён бараніў незалежнае становішча Літвы й Беларусі й не пахваліў Немцаў", а на ейны заўвет, што той нямецкі ўрадавец, які даваў яму пропуск на праезд у Лёзану, за гэта яго „па галоўцы не пагладзіць", адказаў: „Ну, няхай гневаецца, на міжнародным форуме нашыя справы іначай ставіць нельга".

Нажаль, калі на наступным і найбольш важным міжнародным форуме была-б ізноў нагода Івану Луцкевічу „паставіць нашыя справы" — на мірнай канфэрэнцыі ў Вэрсалі ў 1919 г. — ён ужо ня мог зрабіць гэтага, зьлёгшы цяжка хворым і ўжо й не ачуняўшы да сьмерці. Давялося паслаць туды брата Антона, якому нічога зрабіць не ўдалося — Дубейкаўся выказвае ў сваіх успамінах пэўнасьць, што каб мог паехаць Іван — было-б зусім іначся . . .

А пад той час яшчэ й завайстрыўся на чыста асабістым грунтьце канфлікт паміж Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім, якога пачаў разыграваць супраць Антона ўжо і ў справах рэдакцыйных прыстаўлены да газэты „Гоман" нямецкі цэнзар Зузэміль. Зусім зразумела, што Іван Луцкевіч ня мог заняць становішча супраць свайго роднага, да таго-ж улюбёнага, брата нат у чыста асабістых справах, і трыманьне Ластоўскага, як піша Дубейкаўская, „псавала нэрвы" Івану.

Што да самога Ластоўскага, дык у яго стаўленьне да Івана Луцкевіча заставалася нязьменным да канца. Калі ўжо па Іванай сьмерці Ластоўскаму давялося ізноў пабываць на тых мясьцінах Заходняй Эўропы, якія ён упяршыню пабачыў, калі яны езьдзілі разам у Лёзану, ён напісаў верш „Рэйнскі вадаспад", у якім успомніў пра Івана (і гэта адзіны ў цэлай беларускай паэзіі верш, зьвязаны беспасярэдня зь Іванам Луцкевічам). Верш Ластоўскага „Рэйнскі вадаспад", выдрукаваны ў № 2 часапісу „Крывіч" за 1923 г., канчаецца гэтак:

У гроце камянной,
панад шалёнаю кіпежай,
стаялі мы з табой, Іване,
ўслухаючысь ў змагарны гуд;
і ты сказаў з задумаю ў вачах:
„Во так шуміць нямоўчны бор
у нас і дождж аб дах
ў бяссонлівых начах" . . .
І ты хацеў, каб бор гудзеў
табе пад вечны сон . . .
Адзін стаю я зноў
над сьпененай валвой;
спаміны ціснуцца навалай . . .
Тутніць у жылах кроў . . .
І я дрыжачаю рукой,
зь сьвятарнаю пашанай,
пасьцерты ўжо дажджом
твой надпіс паднавіў.
І мне здалось,
што быў ты, зноў, са мной
І быў-ткі, мусі,
як дух змаганьня
Беларусі.

Здаецца, што цяжка было-б знайсьці трапнейшае выражэньне самое існасьці духовае пастаці Івана Луцкевіча, як гэтае во „як дух змаганьня Беларусі", і словы гэтыя таму і ўзятыя за загаловак дадзенага нарысу.

(Далей у наступным нумары)

**Ант. Адамовіч**

# ДВОЙЧЫ НА ВЫГНАНЬНІ

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

плякат" зьнялі ейны крыптанімны назоў. Дзеля аднаплянавасьці чытаньня паэма пераназвана на „Крывавы год". Зусім зьінаачаная ейная канцоўка.

Рэгабілітацыя замкнулася адно дазволам называць імя паэта, найчасьцей з прыдачай благога напаміну пра ўпадніцтва, пэсымізм, заўсёды помнага „буржуазнага нацыяналізму". У афіцыйных гісторыка-літаратурных выданьнях няма аглядаў багатай творчасьці Пушчы. Каб зацьміць ягонае імя, у хроніцы літаратурнага жыцьця 20-х гадоў акадэмічнага выданьня „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" назвалі ўсяго першы зборнік „Раніца рыкае". А іншых, ды асабліва значных, — як-бы й ня было.

**„Шукальнік паэтычных глыбінь"**

У сувязі з усім гэтым заслугоўвае ўвагі рэч іншага кірунку. З прычыны сьмерці Пушчы (1964 г.) праўленьне саюзу пісьменьнікаў Беларусі ў сваім нэкралёгу ў газэце „Літаратура і Мастацтва" называла нябожчыка — **„нястомны шукальнік паэтчных глыбінь"** ды пісала: „Сьветлы вобраз Язэпа Пушчы — **выдатнага майстра беларускай літаратуры** назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах". Нэкралёг, відаць, пісалі паэтавы прыхільнікі й дазволілі яго, бо тады яшчэ цеплілася датляваючы палітычная адлега, калі чалавечая думка мела нейкае пратхланьне для свайго выяўленьня. Абыйшлося навет бязь нейкага напаміну пра былую „грэшнасьць" паэта.

Аджа гэткае пазытыўнае стаўленьне да Пушчы імгненна зьнікла. Больш гэтак ніколі ня пісалі. Што да творчасьці „шукальніка паэтычных глыбінь", дык у тым сьвеце, дзе нішто не абыходзіцца без загаднасьці афіцыйных чыньнікаў, — зь іхнае волі наважылі адабраць належнае ёй месца ў беларускім літаратурным працэсе, выкасаваць яе, ня даць чытачу. Яшчэ перад сьмерцяй паэту не далі доступу ў прызначаную для настаўнікаў і шырэйшага чытаньня кнігу „54 дарогі", у якой было цімала імёнаў правінцыяльных. У Беларускай энцыкляпэдыі абмежаваліся канцылярскай адпіскай ды ня мінулі, хоць і здалікачана, „пэсымістычныя нотк і".

**Пушчу не прынялі ў жаданыя.** Другім выгнаньнем ягонай творчасьці абярнулася тая ўмоўная рэгабілітацыя.

**Творчая крыніца — Беларусь**

Ды наперакор помсьлівай афіцыйнасьці паэт жыў нязгаснай верай — „душа мая і голас мой у вершах застануцца жыць". Бо Беларусь была ягонай жыцьцёвай і творчай крыніцай. У ёй і нязрушнасьць паэтавай веры й спадзяваньняў:

Я прыпадаю да тваіх, зямля,
грудзей,
І прагна сок твой п'ю і веру
у бясьсьмерце.

Як нацыяльную годнасьць, Пушча шанаваў спадчынныя „сьпевы бацькавы і матчыны", беражоныя й не растрачаныя „за цяжкай працаю". На ростані з жыцьцём, а хваляваны характвом непаўторным роднае прыроды, паэт запаветна пісаў — „Пакідаю песьню ў спадчыну". Але перад прызначаным доступам да спадчыны сталі сілы злыя.

Ды ня ўсё вечнае на гэтай мо нявечнай зямлі. Мінаецца й мінецца благое. Пушча ніколі ня быў у пэсымістычнай бязьверы. У самыя роспачныя часіны зь ім была вера ў другое — сьвяточнае Прыйсьце, на якое да свае Маці „прыйдуць тыя, што сабе ня лгалі".

Пушчава паэзія — гэта ўсхваляваная духовая біяграфія вольнадумнага паэта, якому давялося жыць і пісаць у таталітарнай дзяржаве, паняволенай часткай якое сталася Беларусь. Ёй паэт аддаў увесь свой талент. Ягоная апазыцыйная сваім вольдумствам паэзія застаецца дзейнай супраць чужацкае паняверкі, калі нацыянальнае быцьцё народу зводзіцца нанішто. Адно тымчасам пакідаюць дзеля ўсхваленьня тае паняверкі літаратурны завулак у беларускай мове дый то зь мізэрным выдавецкім тыражом.

Адзіны раз не запярэчылі прыжыцьцёваму паэтаваму жаданьню: нябожчыка пахавалі на магільніку ў родных Каралішчавічах, дзе знайшлі свой супачын і ягоныя бацькі, зімой і на старасьці выкінутыя, як стаяць, на вуліцу з свае хаты ў ліхалетную пару.

**Бацькавіч**

